СССР




# СЬПІС АБАНЭНТАЎ

## ГАРАДЗКІХ ТЭЛЕФОННЫХ СЕТАК

## Менскай Акругі Сувязі.

# 1928

| | |
|---|---|
| Усі увагі, якія датычуцца карыстаньня гэтым сьпісам, просьба паведамляць тэлефоннай сетцы. | Тэлефонная станцыя дае даведкі толькі аб №№ тэлефонаў не ўвайшоўшых у сьпіс. |

ВЫДАНЬНЕ

Беларускага Кіраўніцтва Сувязі.

С. С. С. Р.

НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ ПОШТ і ТЭЛЕГРАФУ

# СЬПІС АБАНЭНТАЎ

## ГАРАДЗКІХ ТЭЛЕФОННЫХ СЕТАК МЕНСКАЙ АКРУГІ СУВЯЗІ

## 1928.






1 9 2 8

## ШТО ТРЭБА ВЕДАЦЬ КОЖНАМУ АБОНЭНТУ.

### I. Карыстаньне апаратамі звязанымі з цэнтральнаю станцыяю.

**Перад вызавам абанэнта даведайся дакладна які нумар яго тэлефону.**

**Калі дакладна ня памятуеш нумару**, упэўніся ў альфабэтным сьпісу абанэнтаў.

**Калі ў сьпісу абанэнтаў нумару ня значацца** і ты дакладна ведаеш, што асоба ці ўстанова сапраўды прылучаны да Сеткі, уяві сябе перш ясна назву абанэнта, затым зьвярніся за даведкаю ў Бюро даведак, (якое вызываецца бяз нумару).

На адгук тэлефаністкі бюро даведак, скажы дакладна назву і адрэс.

Для вызаву цэнтральнае тэлефоннае станцыі, неабходна павернуць праваю рукою ад сябе 2 ці 3 разы ручку на правым баку апарату. У час гэтага сыгналу (званка) ручны слухавы тэлефон **абавязкова павінен аставацца на рычагу на сваім мейсцы, з левага боку апарату.**

Ня чакаючы адказнага званка, зьняць ручны тэлефон, прыставіць шчыльна да вуха і чакаць ад станцыі адказу. Пры цэнтральнай батарэі, станцыя вызываецца простым зьняцьцем трубкі.

Учуўшы голас дзяжурнае тэлефаністкі, якая скажа свой нумар **вымаў ясна і адчотліва неабходны нумар.**

Трымай правільна слухавую трубку **і заўсёды гавары проста ў рупар.** Пры другом становішчы трубкі чутнасьць голасу значна паніжаецца і тэлефаністка прымушана, альбо перапытаць, альбо можа даць неправільнае злучэньне.

**Не кажы лішніх слоў** (напр. будце ласкавы, злучэце мяне і г. д.). Калі тэлефаністка паўторыць сказаны табою нумар, досыць падцьвердзіць яго правільнасьць словам „але". На адказ „гатова" адказу з твайго боку не патрэбна. У выпадку неправільнага паўтарэньня тэлефаністкаю нумару, спакойна паўтары ўвесь нумар з націскам на тую цыфру на якой памылілася тэлефаністка.

Усякае лішняе слова ў значнай меры паменьшае хуткасьц **работы тэлефаністкі.**

**Ня ўступай ні ў якіе размовы з тэпефаністкаю,** бо ёй ўсё роўна забаронена адказваць на іх.

**Аб папсуцьці тэлефону звані ў Бюро папсуцьцёў** (вызываецца без назвы нумару).

**Вымаўляй нумары тэлефонаў чотка** і наступным чынам: нумары звыш сотні, напр. 123—адзін дваццаць тры; 972—дзевяць семдзесят два.

Асабліва ясна і выразна трэба выгаварваць наступные, якіе сустрэкаюцца ў тэлефонных нумэрах, злучэньня цыфр 18, 19, 66, 67, 78, 89.

**Аб няправільным абслугаваньні тэлефону** (не правільные дзейства тэлефаністкі, неправільнае злучэньне, перарыў размовы да сканчэньня і г. д.) **заяўляй старшай тэлефаністцы** (вызываецца без назвы нумару). Пры гэтым абавязкова **паведамі нумар тэлефаністкі** дапусьціўшай неправільнасьць у злучэньні. Ні ў якім разе **ня ўступай у перакоры з тэлефаністкаю.**

**Ні ў якім выпадку ня дапушчаецца абраза тэлефаністак пры выкананьні імі сваіх абавязкаў.** Абанэнт, з боку якога будзе ўстаноўлены такога роду факт, **будзе прыцягвацца да судовае адказнасьці па арт. 159 Крымінальнага кодэксу, а тэлефон выключацца.**

**Сачы за тым, каб тады,** калі ня карыстаюцца апаратам **слухавае трубка заўсёды ляжала на абоіх вілах рычагу** ці вісела на рычагу, інакш будзе доўгае разлучэньне, станцыя ня зможа цябе вызваць і апарат можа быць выключаны як папсаваны.

## II. Допуск тэхнічнага пэрсоналу да тэлефонных установак у абанэнтаў.

**Ня дапушчай да тэлефона** асоб без прад'яўленьня імі іменых пасьведчаньняў ці спэцыяльных мандатаў, падцьверджаючых іх прыналежнасьць да Кіраўніцтва Сеткі.

Іменные пасьведчаньня і мандаты павінны мець подпіс загадчыка і пячатку ўстановы.

Зьвярні ўвагу на тэрмін дзейства гэтых дакумэнтаў.

Ня давай тэхнічнаму пэрсаналу (манцёрам і інш.) які абслугоўвае тэлефонные прылады якія нибудзь **даручэньня грашовага характару** (абаненнтную пляту, пляту за дадатковые прылады і інш).

Тэлефонная Сетка не адказвае за грошы переданыя служачым ня ўпаўнаважанным да прыёму іх.

Ня давай пэрсаналу сеткі якіх небудзь узнагарод (чаевых і інш ) натураю ці грашыма за выкананьне работ па абслугаваньню абанэнта. Сетка прыцягвае асоб даўшых і асоб узяўшых узнагароду да судовае адказнасьці як за хабарства.

## III. Калі абанэнт вінаваты ў неправільным дзействе свайго тэлефону.

**Калі абанэнт** па нядбаласьці, ці жадаючы пазбавіцца ад вызаву па тэлефону **здымае мікратэлефон з рычага**, дзякуючы чаму его тэлефон выключаецца, як папсуты.

**Калі абанэнт у часе размовы цягае шнур рукою** ці калі апошні знаходзіцца пастаянна ў нацягнутым становішчы—зьяўляецца абрыў жылы шнура і тэлефон псуецца.

**Калі абанэнт, жадаючы панізіць чуткасьць тэлефоннага званка, укладвае ў апошні пастаронніе рэчы**—паперу, анучы, і інш. званок разрэгуліроўваецца і бяздзейнічае.

**Калі абанэнт здымае мікратэлефон да сканчэньня званку** бо гэта можа вызваць папсуцьце мікратэлефону (згарыць парашок).

**Калі абанэнт** нядбала зьвяртаецца з мікратэлефонам, **кідае яго і інш** ён вызывае папсуцьцё мембраны і самого апарату.

**Калі абанэнт вешае мікратэлефон на адну вілу рычагу—не кладзе яго на абедзьве ён вызывае пакрыўленьне рычагу,** а разам з тым і спыняе дзейства тэлефону.

**Калі абанэнт, жадаючы пасіліць чуткасьць** пачынае стукаць па мембране, ён можа прабіць апошнюю і зусім парушыць дзейства телефону.

**Калі абанэнт сваімі сіламі** ці з дапамогаю другіх асоб, пастаронніх Кіраўніцтву Станцыі **робіць якія небудзь зьмены ў тэлефоннай праводцы** (перастаноўку апарата, устаноўку дадатковых прылад) **ці разьбірае маючыяся ў яго** тэлефонныя прылады (апарат, мікратэлефон і інш.), а так сама без дазволу станцыі ўключае розные прыпасаваньня для радыёпрыёмніка, ён падпадае нябясьпечнасьці парушыць правільнасьць дзейства свайго тэлефону.

## IV. Аб парушэньні правіл карыстаньня тэлефоннымі апаратамі.

У выпадку выяўленньня з боку абанэнта парушэньня правіл карыстаньня тэлефоннымі апаратамі і прыладамі, а так сама і пры самавольным, без ведама Кіраўніцтва Сеткі, вытворчасьці ім работ па ўстаноўцы, перастаноўцы і выпраўленьні тэлефонных апаратаў і правадоў, прапануецца такім абанэнтам, каб ня ўздымаць супроць іх Крымінальнага абвінавачаньня і ня прад'яўляць іску ў судовым парадку, плаціць штраф у залежнасьці ад характару дапушчанага ім парушэньня, а іменна:

За таемную перастаноўку тэлефонаў сродкамі абанэнта бярэцца штраф у разьмеры падвойнае каштоўнасьці работ па перастаноўцы, згодна тарыфу.

За незаконнае карыстаньне дадатковымі прыладамі (розеткамі, пераключацелямі, кантактнымі трубкамі і інш.) з абанэнту ўзыскваецца гадавая каштоунасьць абанэменту іх, лічачы па дзень выяўленьня, пры чым, ў выпадку жаданьня абанэнту захаваць і ў далейшым маючыяся ў яго прылады, яны належаць далейшай аплаце па існуючаму тарыфу з дню выяўленьня па тэрмін чарговае аплаты.

Пры выяўленьні незарэгістраванага тэлефону, апошні павінен быць зараз же адабраны.

## V. Агульные ўмовы заказу на тэлефонные устаноўкі і карыстаньне тэлефонамі.

Папярэдніе даведкі, адносна ўсіх пытаньняў устаноўкі тэлефонаў (аб парадку падачы заявы, аб каштоўнасьці, аб тэрмінах выкананьня заказу, і інш.) даюцца канцэлярыямі п/т прадпрыёмств па мейсцу знаходжэньня тэлефоннае сеткі, там жа робіцца і прыём заказаў ад асабістых заказчыкаў ці ад прад'явіўшых дакумэнты, упаўнаважваюшчых на падачу заказаў на устаноўку, ці перастаноўку тэлефонаў, а так сама і на усякаго роду тэлефонные пабудовы.

Заказ лічыцца прынятым к выкананьню з моманту унясеньня абанэнтам у касу сеткі належнае з яго грашовае сумы, а не з моманту простай яго заяўкі, хацяб і пісьменай.

Усе пастауленые ў абанэнтаў прылады павінны захоувацца імі цэлымі. У выпадку наўмыснага папсуцьця ці страты прыладаў абанэнт абавязан заплаціць у першым выпадку суму каштоўнасьці рамонту папсутых рэчаў, а ў другім—суму каштоўнасьці саміх рэчаў.

Тэлефонные апараты ўстанўліваюцца ў сухіх і цёплых памешканьнях па паказаньню абанэнтаў, і абанэнт сам абавязан заручацца папярэдняю згодаю ў падлеглых асоб і ўстаноў на пабудову неабходных прыстасаваньняў для правядзеньня правадоў як унутры, так і знадворку тых дамоў, дзе знаходзяцца гэтыя памяшканьня.

Абанэментная плата ўносіцца паперад да 1 числа плацежнага месяцу ў наступные тэрміны:

| | |
|---|---|
| для гадавых узносаў . . . . . | да 1-га студзеня, |
| „ узносу па паўгледзям . . | да 1-га „ |
| „ „ „ „ . . і | да 1-га ліпеня, |
| „ „ „ чверцям . . . | да 1-га студзеня, |
| „ „ „ „ . . . . | да 1-га красавіка, |
| „ „ „ „ . . . . | да 1-га ліпеня, |
| „ „ „ „ . . . . | да 1-га кастрычніка, |
| „ „ памесячна к 1 числу плацежнага месяцу. | |

**Увага:** гэтыя тэрміны падаўжаюцца сяміднёвымі ільготнымі тэрмінамі, у працягу якіх абанэментная плата прымаецца без налічэньня пені.

Па сканчэньні гэтых тэрмінаў, з 8-га числа плацежнага месяцу, узыскваецца пеня ў працягу 2-х тыднёў: з устаноў дзяржбюджэтных, парт і прафарганізацыі $1/2$% у дзень з ўсей сумы, якая належыць узносу, а з астатніх—1% у дзень з той жа сумы, пасьля чаго тэлефон выключаецца і на ўзваротнае ўключэньне яго ўзыскваецца пастроечная плата па таксам.

**VI. Адносна вытворчасьці якіх-небудзь будаўнічых работ.**

Пры вытворчасьці рознага роду будаўнічых работ, ськіваньні з стрэх сьнегу і інш прапануецца сьлядзіць за прыняцьцем мер для аховы тэлефонных пабудоў, правадоў, кабелёў, каробак і інш.

У выпадку магчымасьці папсуцьцёў, званіце па тэлефону на тэлефонную станцыю.

Вінаватые ў папсуцьці тэлефонных пабудоў прытягваюцца да судовае адказнасьці і акрамя таго, на іх ускладаюцца выдаткі па вазстаноўленьню папсутых абсталяваньняў.

## УВАГА УСТАНОВАМ, ДОМАКІРАЎНІЦТВАМ І ЖЫЛТАВАРЫСТВАМ.

### Адносна камутатарных установак у власным абслугаваньні.

**Пры пабудове камутатарных** установак неабходна **строга захоўваць** тэхнічные ўмовы, якія прад'яўляюцца да такога роду ўстановак.

**Дакладна прытрымліваццa** норма якая ўстаноўлена для дадатковых тэлефонаў (ня болей 10 на адну саедзініцельную лінію).

**Абавязкова** паведамляць у 3-х дзённы тэрмін аб усякіх зьменах у колькасьці дадатковых аппаратаў і прылад (кантактных трубак, разэтак і інш.), а так сама аб зьмене ў сыстэмі камутатара.

**Безперашкодна** дапушчаць тэхнічны кантроль телефоннай станцыі для абгляду камутатараў і прылад.

У М О В А.

192.........году .............................. дню, мы, ніжейпадпісаўшыяся загадчык ..................................................... гарадское тэлефонная сеткі з аднаго боку, і грамадзянін ..........................................

..............................................................................................

..............................................................................................

жывушчы па ............................................................................ у доме № ....................

кв. № ............ чынны $\frac{\text{за сябе асабіста}}{\text{па паўнамоцтву}}$ ............................................................................

............................................................................ ад .............................................. 192...... г.

за № .................. з другога боку, заключылі гэтую ўмову ў наступным:

1. Кіраўніцтва сеткі прадстаўляе (каму) ........................................................ телефонную сувязь для перагавораў праз цэнтральную станцыю з усімі ўключанымі ў сетку абанэнтамі, для чаго ўстанаўлівае $\frac{\text{у кватэры}}{\text{у памяшканьні}}$ гр. ..............................................................................

..............................................................................................................

..............................................................................................................

для асабістага і сямейнага карыстаньня па адрасу ..........................

..............................................................................................................

дом № .............. кв. № .............. апарат ..............................................

і дадаткавыя прылады ..........................................................................

..............................................................................................................

..............................................................................................................

падае лінію ў камутатары выкасьць на ............................ №№ ..................

з дню ўключэньня апарату ўперад на адзін год за гадавую плату:

галоўнага апарату ............................................ руб. ........ к.

дадатковага апарату ........................................ руб. ........ к.

адлегласьці звыш 3-х клм. ................................ руб. ........ к.

Усяго штогодна .............................. руб. ........ к.

Пры павышэньні абанэментнае таксы абанэнт плаціць за карыстаньне тэлефонам па павышанай таксе.

Акрамя абанямэнтнае платы абанэнт плаціц аднаразова за пабудову лініі і ўстаноўку апарату .............................. руб. ........ к.

Разам .............................. руб. ........ к.

2. Калі абанэнт не паведаміць пісьменна, за 1 месяц да сканчэньню тэрміну умовы, аб адказе карыстаньня тэлефонам, умова лічыцца аўтаматычна працягнутаю на наступны год.

3. Калі дадатковая адлегласьць, ці катэгорыя абанэнту ў граніцах дагаворнага терміну зьменіцца, то абанэнт даплачвае розьніцу.

4. У выпадку прадстаўленьня абанэнтам неправільных зьвестак аб прафэсіі і выяўленьні неадпаведнасьці паміж аплачваемаю і фактычнаю категорыяю, сетка можа расчуліць умову і ўзыскаць па сапраўднай катэгорыі з моманту састаўленьня акту за адзін год назад.

5. Карыстаньне тэлефоннаю сувязьзю вытвараецца згодна гэтае умовы і магушчых быць пасьля выданых правіл, якім абанэнт павінен падчыніцца.

6. Абанэнт нясе матер'яльную адказнасць за страту і папсуцьцё тэлефоннае маёмасьці, а так сама за ўсякага роду перабудовы без ведома сеткі.

7. У выпадку выяўленьня служачымі сеткі:

а) зьнятага абанэнтам мікратэлефону з рычагу (для слуханьня радыё, у мэтах захаваньня ад прапажы ці нежеданьні чуць званок у начны час);

б) закладываньня ў званок пабочных прадметаў;

в) адчыненьне апарату ці мікратэлефону (з дапытлівасьці ці ў мэтах самастойнага выпраўленьня і г. д.), абанэнт абавязваецца аплаціць выдаткі па вастанаўленьню дзейства за кожнае з вышейпаказанага парушэньня.

Акрамя таго, пры выяўленьні паказаных парушеньняў сетка не нясе адказнасьці за спраўнае дзейства тэлефону і пакідае за сабою права зьняць тэлефон.

8. Перадача абанямэнту другім асобам дапушчаецца толькі з дазволу сеткі.

9. Пасьля ўключэньня апарату ўнесяная плата за бягучы квартал не зварочваецца.

10. Абанэнту забараняецца браць плату за карыстаньне пастаўленым ў яго апаратам.

11. Абанэнт абавязан дапушчаць ў памяшканьне ўстаноўкі тэлефону служачых сеткі, якія маюць іменныя пасьведчаньня, выданыя сеткаю.

12. Уваходзіць ў якіяб то ні бало грашовыя разьлікі з манцёрам сеткі забараняецца.

13. Пры парушэньні абанэнтам умовы сетка мае права расчуліць ўмову і зьняць тэлефон.

14. Усе спрэчкі, вынікаюшчыя з гэтае ўмовы, разрашаюцца судовым парадкам па мейсцу знахадженьня сеткі.

Правіла карыстаньня тэлефонамі, складзеныя ў сьпісу абанэнтаў мне, абанэнту, вядомы і я абавязан ім падлягацца.

Загадчык п.-т. прадпрыёмства.

А б а н э н т.

# УМОВЫ
## карыстаньня паміжгарадовымі і сельскімі тэлефоннымі зносінамі эксплёатыруемымі па прынцыпу паразгаворнае платы.

### Пералік тэлефонных паслуг.

§ 1. Пры карыстаньні тэлефоннымі зносінамі могуць чыніцца наступные паслугі:

а) тэлефонные размовы з перагаворных станцыяў і пунктаў;

б) так сама з кватэр абанэнтаў мейсцовых тэлефонных сетак і прамых абанэнтаў паміжгарадовых станцыі;

в) даручэньня па запрашэньню для размовы на станцыю асоб з якімі жадаюць весьці размовы, а так сама даручэньня з аплачаным адказам і даручэньня з дастаўкаю з нарачным за межы мейсц знахаджэньня тэлефонных пунктаў;

г) загадзя папярэджваньне абанэнта па тэлефону мейсцовае сеткі і абанэнтаў, уключаных непасрэдна ў паміжгарадовые станцыі (прамых абанэнтаў) аб часе размовы;

д) даведкі па тэлефону, якія маюць палегчыць кліенту карыстаньне тэлефоннымі зносінамі як та: аб № тэлефону вызываемай асобы, калі № адсутнічае ў сьпісу абанэнтаў, аб прысутнасьці ці адсутнасьці вызываемай асобы на перагаворнай станцыі другога гораду ці пункту паведамленьні аб прыбыцьці на станцыю для перамоў вызываючай ці вызываемай асобы па запрашэньню і г. д.;

е) дача размоў ў дагавораны час;

ж) уключэньне тэлефонных апаратаў абанэнтаў, ведушчых размовы па паміжгарадовым і прыгарадным правадам, непасрэдна ў паміжгарадовые станцыі, з умоваю аплаты па спэцыяльнаму тарыфу (прамые абанэнты);

з) прыём і перадача тэлеграм у выпадках прадугледжаных спэцыяльным распараджэньнем НКПіТ.

### Катэгорыі тэлефонных паслуг.

§ 2. Тэлефонные паслугі дзеляцца на наступные грунтоўные катэгорыі;

а) дзяржаўные, б) звычайные, в) службовые.

§ 3. Звычайные паслугі дзеляцца на: а) нармальные, якія ня карыстаюцца ў адносінах часу прадстаўленьня паслуг нікімі перавагамі;

б) тэрміновые, якія карыстаюцца перавагаю перад нармальнымі паслугамі;

в) зверхтэрміновые (пры паміжгарадовых зносінах, якія завуцца „eclair“—„маланка“) якія карыстаюцца перавагаю перад тэрміновамі.

## Час карыстаньня тэлефоннымі зносінамі:

§ 5. Карыстаньне тэлефоннымі зносінамі даецца ў гадзіны вызначаные росьпісам уведзяным дзеля галоўных паміжгарадовых зносін НКПіТ а для іншых акругамі сувязі.

§ 6. НКПіТ прымае ўсе захады да захаваньня ў таемнасьці тэлефонных перамоў.

§ 7. У часе навальніцы тэлефоннае дзейства спыняецца.

§ 8. НКПіТ не нясе ніякае адказнасьці за страты, панесяные кліентам, ад якой бы прычыны пры карыстаньні тэлефоннымі зносінамі яны не адбыліся.

§ 9. Перадача па тэлефонным зносінам зьвестак зьмест якіх ідзе супроць законаў, грамадзянскага парадку і ня прыстойны па выразам, забараняецца.

§ 10. Асобы і ўстановы, якія карыстаюцца тэлефоннымі зносінамі, павінны падчыняцца гэтым умовам, а так сама ўсім правілам і распараджэньням якія могуць быць выданы пасьля НКПіТ і апублікаваны да агульнага ведама.

## Аплата паслуг:

§ 11. Тэлефонныя паслугі вытвараюцца выключна за наяўны разьлік ці з унесянага раней авансу.

§ 12. За адзінку працягу размовы прымаецца 3-х хвілінная нармальная размова, пры чым за размову, якая цягнецца болей 3-х хвілін, бярэцца дадаткова плата ў ліку $^1/_3$ платы трохвілінная размовы за кожную асобную хвіліну.

Увага: Платные размовы, якія цягнуцца меней 3-х хвілін, лічацца за поўные 3 хвіліны. У далейшым няпоўная хвіліна лічыцца за цэлую хвіліну.

Тэрміновые паслугі аплачваюцца ў трохкротным разьліку нармальных паслуг. Зверхтэрміновые—ў дзевяцікротным разьліку нармальных паслуг.

Урадовые паслугі аплачваюцца як тэрміновые, службовые даюцца безплатна.

§ 13. У выпадку адсутнасьці вызываемые асобы там, дзе кліент дапушчае яго застаць, яму даецца права пры заказе даручыць вызваць паступова некалькі №№ тэлефонаў. Гэтак сама кліент мае права заказаць размову з некалькімі асобамі па вызываемаму нумару.

Такая паслуга, адбываецца ў пасьлядоўным вызаве некалькіх тэлефонаў ці некалькіх асоб для аднэй размовы, аплачваецца дадаткова зьверх першага, ў разьліку каштоўнасьці: па паміжгарадовым зносінам $^1/_2$ хв. нармальнае размовы, а па прыгарадным і сельскім—аднэй хвіліны нармальная размовы з кожнаго тэлефону ці асобы.

Калі заявак аб аказаньні паслуг гэтых пры заказе ня было, то вызаў другіх №№ можа быць зроблены толькі па новаму заказу, і ў парадку чаргі.

§ 14. У сельскіх мейсцовасьцях, па жаданьню кліента, размову можа весьці агэнт тэлефоннае службы. Такая паслуга аплачваецца ў разьліку І хвіліны нармальнае размовы, зьверх устаноўленае платы за самую размову.

§ 15. Калі размова не адбылася па незалежнай ад станцыі прычыне: а) у выпадку неатвету па вызываемаму тэлефону, б) адсутнасьці вызываемай асобы, в) выключэньня тэлефона ў вызываемай асобы, г) адсутнасьці тэлефону ў вызываемай асобы, д) закрыцьця вызванае ўстановы на абед і г. д.—то з заказчыка размовы ўзыскваецца каштоўнасьць аднэй хвіліны заказаннае размовы па нармальнаму тарыфу і дадатковая плата, пры вызаве некалькіх №№ (§ 13) калі такіе былі заказаны. Такая паслуга завецца вызавам.

§ 16. Пры адказе кліента ад размовы, з яго ўзыскваецца ў адплату эксплёатацыённых выдаткаў, калі заказ ужо пераданы на станцыю назначэньня, каштоўнасьці і хвіліны размовы па нармальнаму тарыфу. Калі ж заказ ня пераданы на станцыю назначэньня, то з кліенту ўзыскваецца ў адплату эксплёатацыённых выдаткаў 10 кап.

§ 17. Плата, унесеная за заказаную размову, зьвяртаецца поўнасьцю, калі размова не адбылася ў выпадку несправунасьці тэлефоннае лініі.

§ 18. Даручэньня па запрашэньню аплачваюцца за кожны адрас асобна па зацьверджанай таксе. За дастаўку даручэньня нарочным за межы мейсц знахаджэньня тэлефонных пунктаў плата ўзыскваецца парадкам, ўстаноўленым для тэлеграм.

§ 19. Папярэдняе паведамленьне абанэнта па тэлефону аб размове аплачваецца ў разьліку каштоўнасьці аднэй хвіліны размовы па нармальнаму тарыфу, але ня звыш платы, якая ўстаноўлена за даручэньне (§ 1 „г.“).

§ 20. У выпадку дрэннай чуткасьці, ў выпадку няспраўнасьці лініі, кліент папярэджваецца аб тым і пры згодзе яго весьці перамовы, плата з яго ўзыскваецца поўнасьцю за ўвесь час заняцьця ім лініі, незалежна ад таго, як праходзіла размова.

## Парадак прадстаўленьня паслуг.

### А. Пры карыстаньні з перагаворных станцыі.

§ 21. Пры заказе размовы з перагаворнае станцыі ўносіцца аванс які забясьпечвае поўнасьцю размову, але ня меней каштоўнасьці аднае трохвіліннае перамовы.

Б. Пры карыстаньні з кватэр абанэнтаў мейсцовых тэлефонных сетак і прамых абанэнтаў:

§ 22. Абанентам мейсцовых тэлефонных сетак і паміжгарадовых станцыі даецца права вытвараць размовы з телефонных апаратаў, пастаўленых у іх на квартэрах.

З гэтаю мэтаю абанэнт мейсцовае сеткі:

а) падае пісьмовую заяўку на паміжгарадовую станцыю і

б) уносіць аванс ў разліку: для размоў па паміжгарадовым зносінам—60 р. і па прыгарадным і мейсцовым ня меньш 15 р. Пры жаданьні кліенты карыстаюцца зносінамі з якім небудзь пунктам—аванс уносіцца ў разліку каштоўнасьці 20 троххвілінных размоў з гэтым пунктам па нармальнаму тарыфу. Пры выдаткаваньні $^2/_3$ авансу ён павінен быць папоўненым да паказанае сумы.

У заяве павінна быць абгаворана аб адказнасьці надаўцы за ўсе абменянные размовы з паказанных ім тэлефонаў, хацяб такіе размовы прайшлі і без яго ведама.

§ 23. Кліенты, якія ўняслі аванс, могуць прымаць за свой кошт размовы з імі, заяўляемыя з другіх пунктаў тэлефонных зносін, для чаго яны падаюць асобные заявы, у якіх павінна быць паказана, з якіх пунктаў і па якім тэлефонам дазваляецца прымаць размовы за іх кошт.

§ 24. У взносе авансу абанэнту выдаецца квіток.

§ 25. Кліенту, якей унес аванс, даецца права вясьці размовы і непасрэдна з перагаворнае станцыі пры наянаўнасьці ў яго доваду на ўнесяны аванс, роўным чынам унёсшы аванс, може даручыць весьці размовы за кошт яго авансу другім асобам, якія для гэтага прад'яўляюць квіток на ўнесяны аванс ці асобные дазваліцельные запіскі кліенту распарадчыка авансу, з афіцыйна пасьведчаным падпісам.

В. Пры карыстаньні па разавым квітам.

§ 26. Кліенты, жадаючые весці перамовы з сваіх кватэр ці якога-небудзь наогул тэлефону, аплачваюць размову наперад на перагаворнай станцыі ці пункце і адтрымліваюць, гэтак званы разовы квіток, які дзейны ў працягу аднаго месяцу, лічачы з дню выдачы яе, кліенту даецца права ўзяць адначасова некалькі квіткоў для размоў з адным ці рознымі пунктамі. Кожны разовы квіток можа быць скарыстаны кліентам для размовы з другім пунктам, калі плата ў гэтым выпадку не перавышае ўнесянае па квітку сумы. Аднака, няскарыстаны пры гэтым астатак платы кліенту не зварочваецца.

§ 27. Калі кліент ня ведае колькі працягнецца яго размова, ён можа ўзяць у дадатак да грунтоўнага 3-х хвіліннага квіту некалькі аднахвілінных квіткоў, аднака, ня болей 3-х на кожную грунтоўную.

§ 28. Праця́г перамоў па разавым квіткам абмежоўваецца 6-цю хвілінамі пры нармальным тарыфе і 15-цю хвілінамі пры тэрміновым і звэрх тэрміновым тарыфе.

§ 29. Калі асоба, ўзяўшая разовы квіток, ня можа па якім-небудзь прычынам скарыстаць яго, па прад'яўленьні квітка ў касу паміж гарадовае станцыі ці пункта, заплачаные грошы зьвяртаюцца назад з утрыманьнем 10 кап. эксплёатацыённых выдаткаў з кожнага квітку, але ў межах часу дзейнасьці квітку.

§ 30. У выпадку ня збыўшэйся размовы (вызаў) нескарыстаные грошы па гэтаму квітку ў аплату размовы па другому квітку пераведзены быць ня могуць, але могуць быць адтрыманы кліентамі назад у межах часу дзейнасьці квітку за ўтрыманьнем платы за вызаў, калі такі меў мейсца: у праціўным выпадку— 10 кап. эксплёатацыённых выдаткаў.

§ 31. Асоба, аплаціўшая разавы квіток, ня мае права пред'яўляць да станцыі ці пункта пратэнзіі калі замест яго перагаворыць другая асоба скарыстаўшы яго квіток.

### Г. Пры карыстаньні ўмоўным часам.

§ 32. Асоба, якая жадае замацаваць за сабою вызначаны час у вызначаную гадзіну, падаюць аб тым заяву на паміжгарадскую станцыю ці пункт.

Плата за ўмоўные размовы ўзыскваецца поўнасьцю за ўвесь паказаны ў ўмове час, у адпаведнасьці з § 37 гэтых умоў, незалежна ад яго выкананьня. Умоўные размовы прымаюцца на тэрмін ня звыш паўгода.

Увага: адміністрацыя тэлефоннае ўстановы прадстаўляе права, у выпадку неабходнасьці, зьменіць час ўмоўнага карыстаньня ці зусім адмовіць ў далейшым яго прадстаўленні. Ня скарыстаная пры гэтым плата зварочваецца кліенту.

### Парадак абслугаваньня.

§ 33. Размовы прапускаюцца станцыямі і пунктамі ў парадку паступленьня заказаў і ў залежнасьці ад заяўленай катэгорыі, але незалежна ад таго, ад каго ісходзіць заява, ад абанэнтаў сеткі ці прышоўшых на перагаворную станцыю.

Па-за чаргі прапускаюцца службовые перегаворы аб іспытаньні лініі пры папсуцьці. Астатніе перагаворы ў наступнай чарзе, урадовые (§ 2) без усякай чаргі, зьверхтэрміновые пасьля

ўрадавых, тэрміновые — пасьля зьверхтэрміновых, службовые— пасьля тэрміновых, нармальные пасьля службовых.

Калі па тэлефону, з якого заказана паміжгарадовая размова ці з якім жадае гаварыць паміжгарадовы абанэнт пры наступленьні чаргі заняты перагаворамі з мейсцовым абанэнтам, тэлефаністка ўключаецца і папярэджвае абанэнта аб паміжгарадовым перагаворы. Пры незгодзе абанэнта перарваць мейсцовую размову з заказаўшага паміжгарадовую размову ўзыскваецца плата, як за вызаў па належнаму тарыфу і заказ лічыцца скасаваным.

§ 34. Пры наяўнасьці другіх заказаў на размовы, працяг размоў, якія вядуцца ня можа перавышаць: пры аплаце па звычайнаму тарыфу—6 хвілін, пры аплаце па тэрміноваму і зьверх тэрміноваму—15 хвілін.

Пры наяўнасьці другіх заказаў асобе, якая вядзе размову па сканчэньні паказаных тэрмінаў можа быць дазволена гаварыць і далей, але пры згодзе яго далейшы час аплачваць па вышэйшай катэгорыі—пры нармальнай размове—як тэрміновая і пры тэрміновай—як звыштэрміновая. Пры нязгодзе абанэнт разлучаецца і можа прадоўжаць сваю размову толькі ў парадку нонага заказу.

Калі ў часе размовы ня будзе заяў ад другіх асоб аб жаданьні гаварыць, то размова можа быць працягнута і далей звыш устаноўленая нормы, але толькі ў тым выпадку, калі асобаю, вядушчаю размову, унесяна ў касу станцыі ці пункта авансам здавальняючая сума для аплаты размовы звыш перш заяўленага часу.

Урадовые і аперацыйна-службовые размовы часам не абмежоўваюцца.

§ 35. Пры заказе на перагаворнай станцыі ці з кватэры кліент абавязан паказаць: а) горад ці пункт, з якім жадае гаварыць, б) нумар вызываемага тэлефону, в) ці будзе размова весьціся з кім-небудзь ці звызначанаю асобаю, г) свой нумар тэлефону. Кліент, які мае аванс на паміжгарадовай станцыі, акрамя таго, павінен назваць нумар асабістага рахунку, а кліент, які заказвае размову па разавому квіту, абавязан назваць нумар квітку, сваё прозьвішча і час выдачы квітку.

§ 36. Заказаная размова па жаданьню кліента можа быць пераведзена на вышэйшую ці нізшую катэгорыю, пры чым заказ паступае ў чаргу падлеглай катэгорыі з моманту заяўкі аб пераводзе.

§ 37. Размовы па даручэньням і паведамлёньням выконваюцца паміжгарадовымі станцыямі і пунктамі ў залежнасьці ад жаданьня, якое пакажа кліент ў даручэньні і ў адносінах да расьпісаньня. Пры жаданьні кліента скарыстаць размову

дакладна паказаны ў заказе час, ён абавязан аплаціць яго па той катэгорыі, па якой у гэты момант прапушчаюцца размовы. Каліж кліентам паказана катэгорыя, па якой ён жадае гаварыць, то размова даецца толькі пры наступленьні чаргі згодна заказанай катэгорыі.

Калі вызываюшчы ці вызваны кліент жадае паведаміць аб сваім прыбыцьці на станцыю ці запрасіць—ці прышла вызываемая асоба—то такая паслуга можа быць зроблена за установленую плату.

У выпадку наўручэньня позвы, незалежна ад таго было даручэньне з адказам ці без яго, паведамляецца для ведама станцыі паслаўшэй даручэньне, прычына няўручэньня позвы, як та: за неправільносьцю ці недакладнасьцю адрасу ці за адсутнасьцю адрасу, але без усякіх да таго іншых паясьненьняў. Гэтыя зьвесткі паведамляюцца заказчыку пры яго даведцы на станцыі.

Даручэньня па запрашэньню прымаюцца да 20 гадзін пры чым заказы па даручэньням выконваюцца ў залежнасьці ад устаноўленага росьпісам часу дзейства.

Папярэджваюшчые паведамленьні аб часе размовы прымаюцца ня пазьней як за 1 гадзіну да часу размовы ўзалежнасьці ад часу дзейства.

У выпадку адсутнасьці ў кватэры паведамляемае асобы кагоб-то ня было, каму маглоб быць передадзена паведамленьне, у абавязак станцыі паўторнае паведамленьне ня ўходзіць.

§ 38. Раён дастаўкі даручэньняў па запрашэньням устанаўляецца мейсцовым кіраўніцтвам сувязі.

# УМОВЫ
## карыстаньня паміжгарадовымі перамовамі ў крэдыт.

1. Пры заказе перамовы абанэнт павінен паведаміць тэлефаністцы № свайго асабовага рахўнку, крэдыту і № зарэгістраванага тэлефону.

2. Сума крэдыту не абмежавана.

3. За даваемые ў крэдыт перамовы ўзыскваецца паверх паразмоўнай платы дадатковая:

а) з кожнае перамовы аплачваемае па паміжгарадоваму тарыфу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 10 кап.

б) з кажнае перамовы аплачваемые па сельскаму тарыфу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5 кап.

4. 1-га і 16-га чысла паміжгарадовая станцыя пасылае абанэнту „паведамленьне-рахўнак“ на належную з яго плату за перамовы. Льготным тэрмінам для заплаты запазычаннасьці вызначаюцца 2 дні, па сканчэньні якіх на агульную суму запазычаннасьці налічваецца пеня ў наступным размеры:

З дзяржустаноў $^1/_2$% і з іншых кліентаў 1% у дзень.

Пры незаплаце грошай у працягу сямі дзён пасля ўручэньня кліенту рахунка на заплату грошай, паміжгарадовая станцыя выключыць неіспраўнага платніка на месцай тэлефоннай сетцы, не ў залежнасьці ад становішча яго рахунку грунтоўнага абанэнта на гэтай сетцы і справа аб узысканьні запазычанасьці разам з пенею перадаецца ў Суд.

5. Абанэнт, падаўшы заяву аб дазволе яму весьці перамовы ў крэдыт, прымае на сябе матар'яльную адказнасьць за ўсе перагаворы з абаніруемага ім тэлефону.

Копія.

. . . . . . . . . . . . . . паміжгарадовае Тэлефоннае Станцыі.

Ад. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
назва ўстановы ці імя па бацьку, прозьвішча абанэнта.

Адрас: . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прашу даць мне права весьці перамовы па паміжгарадовым, сельскім зносінам у крэдыт з пастаўленага ў мяне тэлефону мейсцовае Сеткі № . . . .

Разам з гэтым абавязваюся падлягаць выкладзеным на звароце гэтага ўмовам карыстаньня тэлефоннымі зносінамі ў крэдыт.

Подпіс абанэнта.

. . . . . . . . . . 192 . . г.

Ніжэй памянёны тарыф увесьці ў дзейства на ўсіх мейсцовых тэлефонных сетках агульнага карыстаньня СССР з 1 Красавіка 1928 г.

ПАДСТАВА: пастанова СНК СССР ад 21 ліпеня 1928 г. і 18 лютага 1928 г.

НЗ **Любовіч.**

**„Зацьвярждаецца“.**

Намесьнік Народнага Камісара Пошт і Тэлеграфаў СССР **Любовіч.**
Намесьнік Народнага Камісару Фінансаў СССР Кузняцоў.
14 Сакавіка 1928 г.

## Тарыф мейсцовых тэлефонных сетак агульнага карыстаньня СССР.

| §§ | Віды пабудоў і паслуг. | КАТЭГОРЫІ АБАНЭНТАЎ. | ТАРЫФ (у рублях). Клясы тарыфу. [1]) I | II | III | IV | V | VI | VII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | **Центральны апарат.** | **I. Катэгорыя—Тэлефоны ў квартэрах:** | | | | | | | |
| | | а) тэлефоны рабочых, служачых: | | | | | | | |
| | | Устаноўка . . . . . . . . . . . . . . . | 20 | 18 | 18 | 15 | 15 | 12 | 10 |
| | | Абанэментная плата (у год) . . . . . | 84 | 78 | 72 | 66 | 60 | 48 | 36 |
| | | б) тэлефоны асоб вольных прафэсіі а так сама саматужнікаў і рамесьнікаў якія ня карыстаюцца наёмнаю працаю: | | | | | | | |
| | | Устаноўка . . . . . . . . . . . . . . . | 25 | 22 | 22 | 20 | 20 | 18 | 15 |
| | | Абанэментная плата (у год) . . . . . | 120 | 110 | 100 | 90 | 80 | 70 | 50 |
| | | в) тэлефоны асоб з няпрацоўным даходам: | | | | | | | |
| | | Устаноўка . . . . . . . . . . . . . . . | 45 | 40 | 40 | 35 | 35 | 30 | 25 |
| | | Абанэментная плата (у год) . . . . . | 150 | 140 | 130 | 120 | 110 | 90 | 70 |
| | | **II. Катэгорыя—Тэлефоны ў установах і прадпрыёмствах недаступные для карыстаньня прыватных асоб:** | | | | | | | |
| | | а) у дзяржаўных і каапэрацыйных установах і прадпрыёмствах, а таксама ў памяшканьнях прафэсыянальных і партыйных арганізацыі: | | | | | | | |
| | | Устаноўка . . . . . . . . . . . . . . . | 25 | 22 | 22 | 20 | 20 | 18 | 15 |
| | | Абанэментная плата (у год) . . . . . | 120 | 110 | 100 | 90 | 80 | 70 | 50 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| б) ва ўсіх іншых установах і прадпрыёмствах: | | | | | | | |
| Устаноўка . . . . . . . . . . . . . . . | 45 | 40 | 40 | 35 | 35 | 30 | 25 |
| Абанэментная плата (у год) . . . . . | 220 | 200 | 190 | 170 | 150 | 130 | 100 |
| **III. Катэгорыя—Тэлефоны ў мейсцох даступных для калектыўнага ці агульнага карыстаньня:** | | | | | | | |
| а) тэлефоны ў аптэках, рабочых клюбах, чытальнях, дамах Сяляніна, абшчэжыцьцях, домакіраўніцтвах і другіх мейсцох якія маюць грамадзянскі характэр і даступна для каляктыўнага карыстаньня: | | | | | | | |
| Устаноўка . . . . . . . . . . . . . . . . | 25 | 22 | 22 | 20 | 20 | 18 | 15 |
| Абанэментная плата (ў год) . . . . . | 120 | 110 | 100 | 90 | 80 | 70 | 50 |
| б) тэлефоны ў магазынах, тарговых складах, тэатрах, рэстаранах, казіно, готэлях, сталоўках, кафэ, кіёсках і іншых падобных ім тарговых прадпрыёмствах (а так сама і ў канторах пры іх) ці мейсцох даступных для агульнага карыстаньня. | | | | | | | |
| Устаноўка. | | | | | | | |
| 1) у дзяржаўных і каапэрацыйных прадпрыёмствах, а так сама ў прадпрыёмствах якія належаць да прафэсыйных і партыйных арганізацыі . . . . . . . . . . . . | 25 | 22 | 22 | 20 | 20 | 18 | 15 |
| 2) У іншых прадпрыёмствах . . . . | 45 | 40 | 40 | 35 | 35 | 30 | 25 |
| Абанэментная плата (у год) . . . . . | 250 | 230 | 220 | 200 | 180 | 160 | 120 |
| Увага: У тых выпадках, калі адным тэлефонам карыстаецца некалькі абанэнтаў асноўным лічыцца той абанэнт, у памяшканьні якога знаходзіцца тэлефон і плата за апошні вызначаецца па катэгорыі данага абанэнта. Асноўным абанэнтам такога-ж тэлефону пастаўленага ў памяшканьні агульнага карыстаньня (калідор) і г. д.—лічыцца той, з якім з аключана ўмова на абанэмент гэтага тэлефону. | | | | | | | |

[1] Кляс тарыфу кожнай сеткі альбо катэгорыі сетак ставіцца НКПіТ, по саглашению с НКФ СССР.

| §§ | Віды пабудоў і паслг. | КАТЭГОРЫЯ АБАНЭНТАЎ. | ТАРЫФ (у рублях). Клясы тарыфу. I | II | III | IV | V | VI | VII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | **Дадатковы апарат да цэнтральнага** (з пераключацелем і без яго). | а) Які знаходзіцца ў адным будынку з цэнтральным апаратам: | | | | | | | |
| | | Устаноўка . . . . . . . . . . . . . . . . . | 15 | 15 | 15 | 12 | 12 | 10 | 10 |
| | | Абанэментная плата (у год) . . . . . | У разьліку 25% абанэнтае платы, за цэнтральны апарат, да якога далучан дадатковы. | | | | | | |
| | | б) У другім памяшканьні на вучастку аднаго ўладаньня: | | | | | | | |
| | | Устаноўка . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 20 | 18 | 18 | 15 | 15 | 12 | 10 |
| | | Абанэментная плата (у год) . . . . | У разьліку 35% ад абанэнтнае платы за цэнтральны апарат, да якога прылучан дададковы. | | | | | | |
| | | Увага: 1. Абанэнтная плата за дадатковы апарат, уласны абанэнта, паніжаецца супроць паказанай вышэй (§ 2 арт. „а“ і „б“) на . . . . . . . . . . . . | 10 | 10 | 10 | 8 | 8 | 5 | 5 |
| | | Устаноўка і перастаноўка такога апарату робіцца па паказаным вышэй таксам а рамонт сродкамі ўладара апарату. | | | | | | | |
| | | 2. На адзін цэнтральны апарат дапушчаецца ня болей 2 дадатковых. | | | | | | | |
| | | 3. Дадатковы апарат, пастаўлены ў месце, якое аднесяна па аплаце да вышэйшае катэгорыі, упараўнаньню з цэнтральным апаратам аплачваецца як цэнтральны апарат, а апошні, у такіх выпадках, лічыцца дадатковым | | | | | | | |
| 3 | **Камутатар.** | **Сетка прыватнага карыстаньня:** | | | | | | | |
| | | Устаноўка, перастаноўка і перабудова . . . . . . . . . . . . . . | Па асобаму каштарысу за кошт абанэнта. | | | | | | |
| | | Абанэнтная плата (у год) . . . . . . | Бярецца за кожны мейсцовы апарат (гл. § 5). | | | | | | |
| | | Увага: Утрыманьне тэлефаністак абслугоўваючных камутатар прыватнага кары- | | | | | | | |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | станья, ва ўсіх выпадках робіцца за кошт надежных установ, якія карыстаюцца гэтымі станцыямі . . . . . . . . . . . . . . | | | | | | | |
| 4 | **Злучная лінія** (з камутатарам сеткі прыватнага карыстаньня). | Пабудова . . . . . . . . . . . . . . . . | 25 | 22 | 22 | 20 | 20 | 18 | 15 |
| | | Абанэментная плата (у год) . . . . . | 140 | 130 | 120 | 110 | 100 | 90 | 70 |
| | | Увага: Колькасьць злучных ліній з камутатарам сеткі прыватнага карыстаньня вызначаюцца згодна пастановы СНК СССР ад 6/V—25 г. „аб пабудове і эксплёатацыі сетак прыватнага карыстанья („Изв. ЦИК“ 20/V—1925 г. № 113, „Бюл. НКПТіТ 1925 г. № 21). | | | | | | | |
| | | 1. **Які належыць сетцы агульнага карыстаньня.** | | | | | | | |
| 5 | **Мейсцовы апарат** (уключаны ў камутатар сеткі прыватнага карыстаньня). | а) тэхнічна абслугоўваемы сеткаю агульнага карыстаньня: | | | | | | | |
| | | Установка і перастаноўка . . . . . . | 15 | 15 | 15 | 12 | 12 | 10 | 10 |
| | | Абанэнтная плата (у год) . . . . . . | 45 | 40 | 38 | 35 | 33 | 28 | 25 |
| | | б) абслугоўваемы (тэхнічны) абанэнтам: | | | | | | | |
| | | Установка і перастаноўка . . . . . | 15 | 15 | 15 | 12 | 12 | 10 | 10 |
| | | Абанэнтная плата (у год . . . . . . | 35 | 30 | 28 | 25 | 23 | 18 | 15 |
| | | 2. **Які належыць ўладару сеткі прыватнага карыстаньня,** ім-жа поўнасьцю абслугоўваемы які мае сувязь з цэнтральнаю станцыяю агульнага карыстаньня: | | | | | | | |
| | | Установка . . . . . . . . . . . . . . | — | — | — | — | — | — | — |
| | | Абанентная плата (у год) . . . . . . . | 10 | 10 | 10 | 8 | 8 | 5 | 5 |
| | | Увага: У вауcіх астатніх, ня прадугледжаных тут выпадках утрыманьне сетак прыватнага карыстаньня, а так сама і будаўнічые работы для іх, робяцца на ўмовах якія ўстанаўліваюцца асобнымі умовамі кіраўніцтв сетак агульнага карыстаньня з заінтэрасаванымі ўстановамі, прадпрыём- | | | | | | | |

| §§ | Віды пабудоў і паслуг. | КАТЭГОРЫЯ АБАНЭНТАЎ. | ТАРЫФ (у рублях). Кляс ы тарыфу. I | II | III | IV | V | VI | VII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | ствамі і асобамі, якія робяцца згодна пастановы СНК СССР ад 6/V—25 г. „аб пабудове і эксплёатацыі сетак прыватнага карыстаньня“ (Изв. ЦИК 20/V—25 г. № 113 „Бюл. НКПТіТ“ 1925 г. № 21). | | | | | | | |
| 6 | **Прыватная лінія** (для простай сувязі абанэнтаў паміж сабою ці з паміжгарадовою тэлефоннаю сеткаю праз крос гарадское тэлефоннае сеткі, мінуючы яе камутатар). | Пабудова . . . . . . . . . . . . . . . | 50 | 44 | 44 | 40 | 40 | 36 | 30 |
| | | Абанэнтная плата (у год) . . . . . . | | | | | | | |
| | | а) Прыватная лінія для простай сувязі абанэнтаў паміж сабою з тэлефоннымі апаратамі на абодвых канцох . . . . . . . . . . | 140 | 130 | 120 | 110 | 100 | 90 | 70 |
| | | б) Прыватная лінія ўключаная ў камутатар сеткі прыватнаго карыстаньня ці паміжгарадовае тэлефоннае станцыі . . . . . . . . | 200 | 190 | 180 | 160 | 150 | 130 | 100 |
| | | Увага: 1. За кожны тэлефонны апарат, пастаўлены на прыватнай лініі сеткаю агульнага карыстаньня узыскваецца:<br>а) за ўстаноўку . . . . . . . . . 10 р.<br>б) абанэнтная плата (у год) . . . 15 р. | | | | | | | |
| | | 2. Прыватные лініі спецыяльнага назначэньня: для сыгналізацыі, міліцэйскае сувязі, простай тэлеграфнай сувязі, непасрэднай сувязі з радыёстаныямі і інш. мэт, даюцца на ўмовах асобных згод з кіраўніцтвам тэлефонных сетак. | | | | | | | |
| 7 | **Дадатковые прилады** (у межах аднаго памяшканьня 1 не далей 25 м. ад апарату). | а) Трубка з кантактам: | | | | | | | |
| | | Устаноўка і перастаноўка . . . . . . | 10 | 10 | 10 | 10 | 10 | 8 | 8 |
| | | Абанэнтная плата (у год) . . . . . . | 15 | 15 | 15 | 15 | 15 | 12 | 12 |
| | | б) Разэтка, пераключацель, дадатковы слухавы прыбор, званок (з пераключацелем ці без яго), за кожную прыладу: | | | | | | | |
| | | Устаноўка і перастаноўка . . . . . . | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 |
| | | Абанэнтная плата (у год) . . . . . . | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 |

